УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5
С36

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 107.
Заснаваная ў 2009 годзе*

**ISBN 978-985-7144-32-7**



## Раздзел 1
## ВАС Я ЧАКАЛА…

* * *

Вас я чакала, пэўна, Вас…
Калі апошні промень згас
Малінавага дня.
А шаты неба нада мной
І вечар сіняю сцяной —
Найблізкая радня.
Вам я шаптала, пэўна, Вам
Кахання словы, а багам —
Малітвы ўдзячнасці.
Там сцежка вузкая ў траве,
І вэлюмам туман плыве,
Хвіліны шчаснасці.
Вы ўсё ж былі, напэўна, Вы…
Зляцелі гусі на ставы
З нябёс анёламі.
Пяшчотнасць Вашых вуснаў, рук…
А сведкі — той магутны дуб,
Жаўрук над сёламі.

* * *

Ці гэта сон? Ці лёс жартуе?
…Яна ступіла на парог.
Як закаханасць ёй пасуе
І позірк светлы без трывог!

І думаць нават не захочаш,
Дзявочай згублены красой,
Што прыйдзе пасля грэшнай ночы
Самотны ранак са слязой.

Растане сон блакітнай птушкай.
Праменяў лёгкія сляды
Спадуць на цёплую падушку,
А фея знікне назаўжды.



* * *

Мне важна ведаць, што Вы ёсць
У гэтым тлумным, шэрым свеце,
Што ў Вашым сэрцы я не госць,
Як нечаканы снег на квецень.

Што ў вашым сэрцы я — вясна…
З вясной пяшчота і надзея.
Я — ноч жаданняў да відна.
Я — цёплы промень, я сагрэю.

Мне трэба ведаць, што Вы ёсць,
Такі сапраўдны ў маёй мары.
Ваш светлы позірк, маладосць
Ці адшукаю ў нечым твары?

* * *

Каханне малітвай назвала.
Душы патаемнасць — алтар.
Я Вашай самотаю стала,
А Вы — мой прытулак для мар.

У дождж навальнічны спатканне.
Між сполахаў грозных з-за хмар
Для Вас я нябёсаў насланне,
А Вы — мой нязгасны пажар.

Сустрэч і расстанняў аповесць
Слязою-расой арабін.
Для Вас я ўсяго выпадковасць,
А Вы — мой найсветлы ўспамін.



* * *

Не ад шчасця паэтка пяе…
Ёй самота падказвае ноты.
І бяссонныя ночы яе —
Хваляванняў і мрояў палёты.

А ад шчасця слязінкі з вачэй
І ад радасці светлай з табою.
Да тваіх прыхінуся плячэй
Пад вясновай пахілай вярбою.

І найлепшыя рыфмы свае
Прашапчу я адзінаму ўпотай.
Нам кахання заўжды не стае.
Я кахання развучваю ноты.

* * *

не дакранайцеся ні позіркам, ні словам.
мы ведаем дарэмнасць спадзяванняў.
каханне наша птушкай папяровай
растала ў тым дажджлівым шэрым ранні.
і не было ні жалю, ні самоты,
і згас на вуснах спешны пацалунак,
аледзянеласць, холад адзіноты
і пустата асірацелых募араў, думак.



* * *

Я сёння чула голас Ваш...
шчэ сон трымаўся за павекі,
а промняў залатыя рэкі
цяклі на заінеласць шкла,
і я насустрач Вам ішла.
Я чула родны голас Ваш...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
У нейкім незямным спакоі
расталі ціха сон і мроі.

* * *

Не для нас гэты вечар сіні...
для мяне...
будзе соладка ад марціні,
жаль міне.
дзень шалёны нарэшце змогся,
недзе знік.
над налітым жыццём калоссем
птушкі крык.
між зямлёю і небам пастка
для душы.
маё цела даўно па частках...
на крыжы.



* * *

Каханне трэба заслужыць
ці нават вымаліць у Бога,
Каб на апошняй той мяжы
не вінаваціць анікога.
Лепш адзінота без маны,
паклон адбіць свайму парогу,
Лепш прыхінуцца да сцяны,
чым да пляча, табе чужога.
Лепш побач крочыць, нібы цень,
і не парушыць лёсу нітку.
Уранку сонечны прамень
вянчальнай абаўе наміткай.
І за анёлам прашапчу
малітву ціха, слова ў слова:
— Я быць каханаю хачу
і шчасце пераэжыць нанова...

* * *

Не адказвай. Маўчы. Не дары спадзяванні.
Нашай восені сум у маўклівым спатканні.
У бясконцых шляхах, у маім бездарожжы,
У малітве маёй «зберажы яго, Божа».



* * *

мары, мроі, думкі, сны...
сэрца б’ецца ашалела.
паміж намі дзве сцяны
збудавала, як умела.
да крыві саб’ю далонь,
кулакі... ты не пачуеш.
болем невыносным скронь,
знаю — не па мне сумуеш.
на мяжы, як на крыжы,
за спіной сцяны шурпатасць.
я для цела і душы
збудавала сабе краты...

* * *

А я прыдумала ў завеі снежнай
твой сілуэт,
твой след...
І думак грэшных,
як рой сняжынак,
такіх пякучых і халодных
на валасах, павеках, вуснах.
І мары,
нібы хмары ў небе нізкім
так блізка
й гэтак недасяжна...
І страшна,
што ў завеі снежнай
згублю твой след.
растануць спадзяванні.
ноч у журбе.
Ну, не дык не! якое тут спатканне,
калі прыдумала цябе.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Завея сціхла... ранне…



* * *

Ты і маё каханне
ў палоне байфлая, вайфая.
у нас не было спатканняў,
але былі кветкі мая.
у нас былі думкі і словы,
яднанне шалёных сэрцаў,
у нас была родная мова
малітвай у аднаверцаў.
сваіх не хавалі пачуццяў,
і Бог нам — не людзі! — у суддзі...

* * *

мы не ведалі, што будзе з намі,
але ўжо адчувалі расстанне.
словы складваліся ў арыгамі,
толькі ў іх не было кахання.
не хавалі сваіх пачуццяў.
рыфмаваліся жарсць і цнота.
колькі ў нас было розных суддзяў,
што смяяліся ўслед употай!
карагодзілі жартамі вершы.
у змаганні тым хто пераможа?
не было тут ні горшых, ні лепшых...
ды чаму ж так балюча, мой Божа?



* * *

Усё — ілюзія, падман...
І мне з табой на гэтым свеце
не напісаць ужо раман,
які чыталі б нашы дзеці.
І не прайсці мяжой адной
між спадзяванняў і адчаю.
У гэтай марнасці зямной
сябе я іншым прысвячаю.
Ізноў ілюзія, падман
сутоннем на душу пральецца.
І ненапісаны раман
у сэрцы рэхам адгукнецца.

* * *

Не дакрануцца тваіх вуснаў.
Аб недасяжным толькі марыць.
Прабач мне гэтыя спакусы,
Бо час не душу — цела старыць.
Забыць пра сорамы і ўзросты.
І хвалявацца, як дзяўчынка,
Як гэта здарылася проста…
Лічу хвіліну за хвілінкай,
Калі ты з’явішся, чаканы,
І мне ў абдымках слоў, пяшчоты
Шчаслівай быць наканавана
Пасля адвечнай адзіноты.



* * *

за травамі, за цудадзейным зеллем
ад злых вачэй збягу ў купальскі луг.
дарогу сонца праменямі сцеле,
і кружыць галаву мядовы дух.
нам не шукаць з табою кветку шчасця.
пакінем іншым. хай цвіце для іх.
я паспрабую сэрца тваё ўкрасці
купальскай варажбою хоць на міг.

* * *

і гэты сум, дзе ты далёка…
і гэты сон, дзе побач ты...
і сэрцаў рытм... і часу крокі...
мой любы, грэшны і святы,
мой неспакой і душ суладдзе,
мой родны і навек чужы...
для іншых у эдэмскім садзе
даспее яблык...
На мяжы,
на вастрыі «хачу і нельга»
спрадвечна — альфа і амега...



* * *

Дзень праспаць. Схавацца ў сны ад стомы.
Ноч пражыць. Даверыць мары зоркам.
Мой дыягназ? Ён табе вядомы!
Гэта восень — смак каліны горкі...
Тут і сум нявыплаканых думак.
Гэта страт жыццёвых лістапады.
Гэта наш адзіны пацалунак —
дотык шчасця, а не крок да здрады...

* * *

У заснежаным лесе няма нашай сцежкі.
У заснежаным полі не знойдзеш мяжы.
Пацалункам на вуснах, нясмелай усмешкай
ці сняжынкай растану ў далонях чужых.
Спадзяванні даўно пераспелай калінай,
Варажбіткай адчайнай бяссонная ноч
Рассыпала на ўдачу нам зоркі-пярліны,
Толькі зоркі чамусьці ляцелі наўзбоч...
У заснежаным лесе калядная казка,
У заснежаным полі не нашы сляды.
і знямелі нябёсы ў чароўнасці бляску,
Два анёлы...
дзве сцежкі...
каханне...
гады...



* * *

Я чакаю цябе ў Беларусі...
Я кахання свайго паланянка,
за вяртанне тваё памалюся
і ад шчасця ўзлячу беражанкай
у нябёсы! Як вытрываць сэрцу,
Каб стралою да долу... спаймаеш?
У далонях ласкавых цяпельца
Ты для птушкі сваёй зберагаеш.
Немагчыма з табою застацца.
Лёс адмерыў сустрэчы-расстанні...
Я чакаю цябе не ў палацах,
Я чакаю цябе на світанні,
Калі сонца пяшчотаю вабіць,
І купае праменне ў расінках...
Я пакорнаю птушкай прачнуся
у тваіх самых родных абдымках...

* * *

Выпадковасцю, нязванай госцяй
у тваёй вясновай маладосці,
чужаніцай у густым тумане,
у палоне палыну, у змане
проста так цяпла ізноў шукаю…
 Ці не проста?
ў сэрца забівае раўнадушша цвік
да болю ў скронях…
Ты схавай мяне ў сваіх далонях,
 нібы птушку…
Не ўтрымаеш доўга.
Млеюць крылы,
 у душы трывога…
Ты пяшчотаю, вінoм у маім целе.
Светлай марай на маёй пасцелі…



* * *

Дарогі клін губляецца ў завеі.
І клінам свет сышоўся на табе.
Што мары, калі марныя надзеі?!
Што ночы, калі сны мае ў журбе?!
А лес стары, працяты нематою,
Трымае неба голлем верхаўя,
Нібыта зберагчы імкнецца тое,
Святое, што даўно згубіла я…

* * *

калі сіл няма ні працаваць,
ні жыць,
калі дзень ілюзіяй спакою,
калі час спыніўся на мяжы,
ты пляча майго крані рукою.
абдымі, да сэрца прытулі
і аддай палону грэшных мараў.
ты мяне каханнем наталі,
забяры спакой мой у ахвяру.
каб ізноў у водары травы
галава кружылася ад шчасця...



* * *

Пад той салодкі шэпт «кахаю»
Я след у след за Вамі йшла.
І верылася, што да раю,
Здавалася, што да святла.
Спакуслівым было маўчанне
І сэрцаў нашых унісон.
Схавала ночка грэх да рання
Пад яркі зорны парасон.
Ваш ціхі шэпт... Ваша «кахаю»...
Згарэла ў променях зары.
Даўно з другімі рай шукаю,
Што не знайсці з тае пары...

## Раздзел 2
# МЫ ГАЛЛЁ АДНАГО РАДАВОДУ

* * *

Мы галлё аднаго радаводу.
Мы адных каранёў спляценне.
Дык з якое, скажы, нагоды
Я ў жыцці тваім стала ценем.

Тым, які за табою крочыць?
Толькі цень гэты сэрца мае.
А як хочацца глянуць у вочы,
Дзе пяшчота іскрынкамі ззяе.

Ажывуць успаміны дзяцінства,
Там мы побач, і ўсё яшчэ будзе...
Будзем ціха жыццё перагартаваць,
Мы ж з табою — родныя людзі!



* * *

Пад ціхі спеў-малітву кліру
Я не стрымала горкіх слёз.
Душа прасіла толькі міру,
Спакою да святых нябёс.

Душа заступніцтва маліла
І каялася ў соты раз,
Што, разумеючы, грашыла,
Грашыла й спісвала на час.

Была той споведдзю прад Богам
Сляза на ране без нажа
І пакаяннем... і парогам...
Сапраўдным крокам да Крыжа.

* * *

Снежань. Няснежна. Шэрасць. Бязмежжа
нізкага неба над соннай ракой.
А над душою распятаю, грэшнай
марыць Анёл пра жыццёвы спакой.
Нават яму не па сіле стрымацца,
нават яму надакучыла тут.
З гэтай душою адвечна спрачацца —
як пакаранне, як Божы прысуд!



* * *

Жанчыны песню завялі
Яшчэ бабуль сваіх, напэўна.
Матывы роднае зямлі
Плылі шырока і напеўна.
Там светлы сум і дабрыня,
Душы народнай таямніцы.
І не спыніць, і не суняць
Жаданне з гэтай песняй зліцца.
І зжыцца з ёй, як на раллі
Расткі зярнят з вадою талай.
Жанчыны песню завялі,
А я, знямелая, стаяла.
Народ — музыка і паэт!
І моц яго ў жыццёвай праўдзе.
І сцішыўся са мной Сусвет,
Каб не парушыць душ суладдзе...

* * *

Я блукала па ўсіх раздарожжах.
Не шукала прытулкаў зацішных.
За грахі пакарай мяне, Божа.
За памылкі прабач, Усявышні.
У крутых лабірынтах падману
Між пакутаў расла і сталела.
Божа, з кім я шчасліваю стану?
Дзе мой рай на зямлі зледзянелай?
У цнатлівасць дзіцячага свету
Не вярнуцца мне болей ніколі.
Я зайздросціла калісь паэту,
А цяпер не хачу яго долі.
Адзінокай у полі вярбінай
Пад вятрамі мне, пэўна, стагнаці.
І суцешыцца спевам птушыным.
І сагрэцца малітваю маці.



* * *

Я не тая, не тая падбітая птушка.
Гэта стомленасць сцішыла смелы палёт.
Бо жыццё — чорна-белая доўгая стужка,
Дзе, напэўна ж, у кожнага свой эпізод.
Хай галоўную ролю даўно грае іншы...
Я згублюся ў натоўпе людзей і падзей.
На прыстанку маім, невялічкім узвышшы
Дні хутчэй і хутчэй, а гады карацей.
Хоць і цягне шукаць тую землю святую,
Той калінавы край без тугі і самот.
Але й там я мільёны разоў пашкадую
І вярнуся сюды, да палескіх балот,
З першым клінам птушыным.
У неба зірніце! Там і песня мая, там і радасць мая!
А навокал зямля ў маладым аксаміце.
Не чужая, а родная сэрцу зямля!

* * *

Любіла тыя вечары,
Калі злуе за шыбай вецер.
У цемры восеньскай пары
Матуля свечку нам засвеціць.
Мы сядзем кругам за сталом.
На цьмяных сценах нашы цені.
Агеньчык радасным крылом
Трапеча на васковым целе.
І песню мама завядзе
Пра зелень дуба, сум каліны,
Пра ружу-кветку, што цвіце,
І нешчаслівы лёс дзяўчыны.
У тон спрабую весці я,
І атрымалася ж, здаецца!
Расці, каліначка мая!
Дачка і маці — еднасць сэрцаў!
Дачка і маці — унісон,
Шырокі, чысты, пераліўны.
Мне часта сніцца гэты сон:
Дзяцінства вечар незабыўны.
Я зразумела праз гады
Навукі гэтае высновы.
Падмога ў час любой бяды —
Матыў калінава-ружовы.
І з кім бы ні прыйшлося пець,
Якой бы Бог ні даў часіны, —
Я свой павінна голас мець
У песні пра маю Айчыну.



* * *

зноў яно, нібы птушка ў няволі,
то замрэ, то ў надзеі заб’ецца.
колькі шчэ ў ім любові і болю,
колькі ран незагойных на сэрцы?
не пускайце па венах мне лекі.
там, у венах, кроў бацькі і маці.
колькі год мне адмерана векам,
ні дабавіць, ні ўзяць, ні забраці.
і калі суцяшэнні пачнуцца,
мне малітва заменіць лячэнне...
гэта страшна — заснуць — не прачнуцца,
не паспець папрасіць прабачэння.

* * *

Не снежыць.
        Не студзіць.
                Наўрад залютуе
У хмарнасці дзён і ў прадонні начэй…
За вёскаю воўк недзе поўню вартуе,
Не зводзіць з яе хітраватых вачэй.
Не цешыць.
         Не будзіць.
                 Наўрад уратуе
Душу, дзе астыласць з бязмоўем жыве…
У марнасці дзён імя Госпада «всуе»
Ізноў выдыхаеш, а сіл не стае.
Не вершы,
        не людзі,
              адчай зноў руйнуе
тваю, нібы поўня, адкрытасць душы.
Ён так залютуе, ён воўкам вартуе
Цябе. Не спяшы…
          Пачакай…
                Не грашы….



* * *

замкнёныя хаты. зарослыя сцежкі.
хаваюцца вокны за квецень каліны
і ціха... няма гаспадарлівай спешкі.
і міма радзіны ідзеш да радзіны
на ўзгорак за вёскай, дзе гэтак жа ціха.
дзе ўжо гаспадараць крыжы і каменне,
дзе лёс чалавечы прачытанай кнігай,
жыццё чалавека — імгненне.

* * *

да крыжоў крыжовы шлях
праз жыццё да скону.
над табою чорны птах,
над зямлёй паклоны.
у самоце твой Анёл,
у журбе — дарога.
памінальны людзям стол,
а малітвы Богу...



* * *

нараджэнне «сёння».
бэзавы світанак
промнем зачапіўся за галлё бяроз.
рассцілае травень туманоў сарпанак,
і расу збіваюць коні на пракос.
дагасаюць зоркі ў вышыні нябёсаў,
снамі на павеках хатняе цяпло.
у руках у Бога нараджэнне лёсаў,
нараджэнне «сёння» праз Яго святло.

* * *

вераснёвая, верасовая,
журавінная, жураўліная
мая восень... і ты часовая...
у самоце сваёй бязвінная.
адшаптала дажджамі нуднымі
мае ночы, бяссонніц поўныя.
я прад Богам адным падсудная
і з людзьмі перад Богам роўная...



* * *

Адны ўзлятаюць да нябёс.
Куды ж падзецца:
Бог даў крылы!
Другім жа — павучыны лёс:
плясці інтрыгі да магілы.

* * *

мой учарашні дзень фантомным болем,
ён шчэ на крылах матыля на столі,
ён звонкай цішынёй у маіх скронях,
ён гасне цьмянай зоркай у сутонні…
мой учарашні дзень такі наіўны —
ён басанож прабег пад летнім ліўнем,
даверыўся вятрам і спадзяванням,
і жыў чаканнем...
мой учарашні дзень у неба рэхам,
ён быў пражыты бегам,
смехам,
спехам,
слязой нястрыманай і адчуваннем волі…
мой учарашні дзень фантомным болем.



* * *

цішыня... збег хвілін... часу... дзён...
збой жыцця... рытму сэрца... не ён...
і мяне ўжо няма... цень у сне.
нехта моўчкі плячо кране,
паспрабуе мяне разбудзіць:
— трэба жыць...

# Раздзел 3
# РОДНАЕ

* * *

Недзе за вёскаю статак
Гне чорна-белыя спіны,
Восеньскай стынню працяты,
Хрумстае ранішні іней.
Вецер злуецца між голля,
Мёрзлай лістотай шугае…
Волі, здаецца ж, даволі,
Але ўсё ж — не хапае!



* * *

Мне тая вёска хай прысніцца.
Майструе нешта прадзед мой,
А прабабуля мітусіцца
Ля печы ўвішна з чапялой.

Пах свежабеленае гліны.
Гуляе промнік па сцяне.
Як зманліва гарэць каліны
Праз шкло бутэлькі на акне!

Пад дахам тым хапае месца
Сям'і вялікай і гасцям,
І песні, што раздзеліць з сэрцам
Бяду і радасць напалам.

Тут сустракаюць дзень малітвай
І спаць кладуцца разам з ёй.
Бывала, што ў такой галітве —
Ды з дабрынёй і светлынёй!

Мне тая вёска хай прысніцца…
У шыбку ціха зазірну
Пужлівай залатой сініцай,
Хоць на імгненне ўсё вярну...

* * *

Відаць, пакрыўдзілі буслоў…
Ніхто не ўбачыў вальс апошні,
Той, зразумелы і без слоў,
У небе чыстым па-над пожняй.
Збірала лета на пасаг.
Да Спаса яблыкі ў пашане.
Што падганяла бедалаг
Згубіцца ў жнівеньскім тумане?
І не парушыў крылаў свіст
Дрымоты лёгкай сінім ранкам.
Кружыў самотна жоўты ліст
Над сіратліваю буслянкай.
Малітву на шчаслівы шлях
Шапталі чараты сівыя:
Як там ні хораша ў гасцях,
Вяртайцеся дамоў жывыя.
А неба раптам ад тугі
Заплакала слязою шчырай.
Буслы ў пачатку той чаргі
Адлётаў у далёкі вырай.



## Хатка пры балоце

Там, у краі журавінным,
З туманамі ў згодзе
Дрэмле ў гушчары крапіўным
Хатка пры балоце.

Стогнуць ноччу аканіцы,
Шмат гадоў гасподзе…
Напалову ўжо ў зямліцы
Хатка пры балоце.

Хто тут колісь гаспадарыў
І гадаў, што будзе?
Хто кахаў, пра шчасце марыў? —
І не помняць людзі.

«Засталася сіратою», —
Кажуць у народзе.
Можа, стрэлася з бядою
Хатка пры балоце.

Вецер ладзіць шматгалоссе,
Зоры ў карагодзе…
Колькі шчэ ёй засталося,
Хатцы пры балоце?..

* * *

Мы госці, няйначай, сягоння
На гэтай мядовай паляне.
З-за хмарнага цёмнага ўлоння
Нясмела праменьчык загляне.
Заскочыць, як мы, на хвілінку
І ўжо назаўжды застанецца.
Вясёлкаю слёзка-расінка
Заззяе ў рамонкавым сэрцы.
Тут птушка крылом залапоча,
Спалохана зноў заціхае…
А песню хай ловіць, хто хоча,
Хай рэха яе даспявае!
Цікуюць, варожаць чарніцы.
Цыганскім вачам іх вядомы
Кахання і мар таямніцы,
І шлях найкароткі дадому.
Шчаслівыя, й мы запыталі
У іх пра свае далягляды…
І вусны салодкімі сталі
І сінімі (Божа, дай рады!).



* * *

Прыцярушана дарожка.
Вось і першы след зімы
Пракладае ціха кошка,
А за кошкаю і мы.

Там, за рэчкай, заінелы,
Серабрысты далягляд…
І так чыста, і так бела!
І так хочацца Каляд!

* * *

Тчэ лета з красак паясы
Уздоўж сцяжын-дарог бясконцых.
Трава ўжо просіцца касы
І млее пад паўдзённым сонцам.

Няма калі чакаць чаргі.
На досвітку прачнецца хата.
У росах пышныя лугі,
І косы-звоны нібы свята.

Адзін пракос, за ім другі.
Груды, балоты і даліны.
А покуль вырастуць стагі,
Пральюцца поту ручаіны.

Смачнейшай здасца тут вада
І хлеб у палатняным клунку.
А ўдома дзетак чарада
З лугоў чакае пачастунку.

І ў сне, што зморыць незнарок,
Касца стрывожыць за хвіліну
Той недакошаны краёк
І ціхі сум старой каліны.



* * *

Добрай ночы, поўня-маці…
Пад вярбоваю альтанкай
Будзем разам пільнаваці
Зоркі светлыя да ранку.

Бачыш, ціха, крадучыся,
Падпаўзлі да самай хаты
Туманы — дзяды сівыя,
І маўчыць прастор зацята.

Толькі ты вялікім вокам
Не суроч майго спакою,
Бо жыццё ідзе не крокам,
А цячэ-бурліць ракою…

* * *

Трывога сэрца зноў палоніць.
І слухаю бясконцай ноччу
У цемрадзі сваіх бяссонніц
Сімфоніі вятроў паўночных.

Агорне жалем і самотай,
Незразумелым прадчуваннем.
Паплачу, паслязую ўпотай
Пад завірухі завыванне.

Пад цяжарам пакут і болю
У прорву забыцця нямую
Лячу, на міг адчуўшы волю…
І зайздрасць нечую чужую.



* * *

Хвілін апошніх боль, гаркоту
Не падсалодзіць пацалунак
Халодных губ… Няма звароту…
Зноў пад нагамі нечы клунак.
Вакзала тлумныя пероны.
Тут рух і ў будні, і на святы.
Суладна шуму паўз вагоны
Туруе сэрца: едзь дахаты…
Да хаты, што даўно чакае
Цябе, здарожаную лёсам.
Там ноччу зорка залатая
Спадзе ў далонь тваю з нябёсаў.
Там ранак свежаю расою
Сурокі змые, дасць збавенне.
І прыгажосцю незямною
Падасца промнікаў мігценне…
У кожнага свая прычына,
Дзе той прыпынак супакою?..
На шчасце ўслед чужы мужчына
Мне раптам памахаў рукою.

* * *

Снежань дзіўны… Красуюць кусты
Хрызантэм белавата-ружовых.
І туман, як у восень, густы
Спачывае на сцежках вясковых.

Снежань дзіўны… Напэўна, са мной
Закахаўся ў нябесную просінь.
І не прагне сустрэцца з зімой,
І блукае, вярнуўшыся ў восень.

Снежань дзіўны і шэры… А стынь
Прабірае да самага сэрца…
Не ламай хрызантэмы, пакінь.
Ружавеюць няхай пад акенцам.



* * *

Засцілаючы дол сухалісцем,
Не мінула ніводнае сцежкі,
Пэўна, восень адшуквала выйсце
На кароткім жыццёвым прамежку
З верасовай духмянай паляны,
Дзе самотаю бабіна лета…
Недзе яблык чакае крамяны
Еву-восень у садзе Сусвету.
Залатое шыкоўнае ўбранне
Пазрывалі вятры-ліхадзеі…
І на сцежцы сустрэла каханне,
А з каханнем адчула надзею…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
На кароткім жыццёвым прамежку
найсалодшая Евіна сцежка…

* * *

Канец зімы. Лагодны ціхі вечар.
Раскоша зор і думак, мар сувой.
Баіцца праміну́ць з вясной сустрэчу
Ля брамкі цень знямелы мой.

Стаіўся вецер між вясковых вуліц.
Я гіну ў глухаце чужых дрымот.
Зноў адзінота да сябе прытуліць
І запрацуе часу калаўрот.

А дні мае як повязь шэрых ніцей.
Ад крыўд, няўдач няўціхны ў сэрцы боль.
Дай, Божа, сіл маркоце не скарыцца
І дакрануцца да вясны дазволь.

Як у дзяцінстве, і цяпер чакаю
Крык першых птушак у цішы балот.
Надзея, вера — і канец адчаю.
І да жыцця імклівы паварот.



* * *

Палова лета. Навальніцы.
Пятроўкі мыюцца расою.
Бягуць жанчыны па чарніцы.
Іх, кажуць, хоць касі касою.

У кожнае з маіх вясковак
Свой спрыт і свой маршрут вядомы.
І калі толькі ты не ўломак —
Паўнюткі кош нясеш дадому.

А як паверне бліжай к Спасу,
У вёсцы свежыя навіны:
Не дачакаўшы свайго часу,
Ў балотах спеюць журавіны.

У кожнае з маіх вясковак
Свой спрыт і свой маршрут вядомы.
І калі толькі ты не ўломак —
Мяшок на плечы і дадому.

## Купальскае

У купальскіх росах
вымытае сонца
Йграла на світанні
сотнямі вясёлак,
Разлівала радасць
чыстую бясконца.
І з душы збалелай
гнала сум і морак.

Пракладалі коні
шлях да небакраю,
Адчуванне волі
ў ліпеньскіх нябёсах.
І звінела ранне
спевам-пераграем
У траве купальскай,
жыватворных росах.



* * *

Напрадвесні светлай песняй
Над распятаю душой,
Над змарнелаю, над грэшнай,
Як збавенне, голас твой.

Як на споведзі два сэрцы,
Праўда ў кожнага свая:
Вершам-сумам на паперцы
Ці радком, дзе ты і я.

Я зайздрошчу тваёй волі,
Там, у небе, ёсць прастор
І для песні, і для долі,
Злой бядзе наперакор.

Праз малітву, што пад сонцам,
Карацей да Бога шлях.
У душы найчыстым звонцам
Мой вясенні першы птах.

* * *

Мая восень, ты з інеем першым
Я гляджуся ў люстэркі лужын
На душы незакончаным вершам
Прадчуванне зімовай сцюжы



* * *

яшчэ трымціць на павуцінцы лета.
і сонца мые промені ў расе.
на даляглядзе голасам распетым
на крылах сум жураўка мне нясе...

## Дзед-пчаляр

Да Міколы селі пчолы —
Добры знак у пчаляроў.
Дзед шчаслівы і вясёлы,
Дзед шчыруе ля вуллёў.

Бы й няма таго узросту...
Мёд у сотах залаты.
Дзеду хутка дзевяноста.
З пчоламі даўно на «ты».

Дзед для нас адважны, смелы.
Бач, як ходзіць між раёў!
Як спакойна, як умела
Ён парадак тут навёў!

Мы, дзядулевыя ўнукі,
Рады дзеду памагаць:
Ды якая там навука —
Мёд у сотах каштаваць!



## Бабулі…

Яна ціха сышла на Ражство...
На Ражство, што так моцна любіла.
Буйны дождж горкіх думак сяйво
Паліваў па-над свежай магілай.
Нехта скажа: «Законы жыцця!
Пражыла, дзякуй Богу, нямала!»
Толькі ты да пары той дзіця,
Калі ёсць на зямлі твая мама.
І шчэ мроіцца стогн уначы...
І шчэ помняцца боль і пакуты,
І адчай, што не мог памагчы
Самай роднай, хваробай прыкутай.
Не вярнуцца адтуль, з небыцця…
Не параіш, не скажаш нічога.
Давязала ўсе ніткі жыцця...
Прашаптала ўсе словы да Бога.

* * *

не галава, а сэрца нібы ў клетцы.
аб шыбу разбіваецца матыль...
і мроя-сон — я ў бэзавай сукенцы,
такі вясковы басаногі стыль.
і голас мамы... не, хутчэй бабулі...
якой няма? якую не вярнуць.
і ціхае здалёку: люлі, люлі...
спі, Ірачка, бо ночку разбяруць.



## Поўня

Яна адна над зіхаценнем свету
са стрыманасцю, годнасцю шляхцянкі...
Бяссонніцаю стала для паэта,
натхненнем і каханкаю да ранку.
Глядзіцца ў мора з велічным спакоем.
Яна ўладарыць над зямнымі снамі,
прызначаная Божаю рукою
святлом сваім дзяліцца паміж намі.

* * *

Салаўіныя пошчакі-свісты
Раптам зніклі між голля калін.
І запознены промень агністы
Сумна тлее ў цішы вершалін.
Закалыхвае вецер паўсонны
На балотах рагоз, чараты.
Дзень пражыты звычайна,
будзённа,
Проста часу прамежак і ты.
У чаканні маркоціцца поўня,
Цэдзіць рэдкае ў хмарах святло.
Ад бязмоўя пульсацыя ў скронях,
Дзень знікае, як і не было.



* * *

Усё яшчэ зіма не адпускае?
А час-руплівец зменлівасць нясе.
Навокал, паглядзі, вясна якая!
Жытло ладуе бусел на страсе!
І радуешся кветкам-першацветам
і гэтаму паўсоннаму чмялю,
які, вясновым сонейкам сагрэты,
зляцеў аднекуль проста на зямлю.
Захмеліць зноў прыроды абуджэнне!
І чысціня закружыць галаву!
Якое тут, скажыце мне, старэнне,
Калі ў вясне вясною я жыву?!

# Раздзел 4
# КАВА І ВЕРШЫ Ў ЛОЖАК

* * *

Выпʼю каву, што чарней за Вашы вочы.
Выпʼю каву, што гарчэй за адзіноту.
Будзе дождж па шыбах ціха крочыць
І выводзіць надакучлівую ноту.
Прашапчу малітву пакаяння
Вуснамі, што помняць Вашы вусны.
Будзе ноч бяссоннаю да рання,
Успамін салодкі і спакусны.



* * *

лістападаўскім стылым раннем,
калі вецер расхрыстваe голле,
не сагрэю цябе дыханнем,
толькі каву сабе дазволю...
запрашу цябе. будзем разам.
прысмак слодычы і гаркоты.
і спатолімся гэтым часам,
і забудземся на турботы.
Віртуальна-рэальным раннем
я твая ласкавая Пані....

* * *

яшчэ ўладарыць сон над тваім целам,
душа з анёлам у вандроўцы мройнай,
а я світанкам да цябе зляцела
на павуцінцы восеньскай няўлоўнай.
І, растрывожаная дзіўным неспакоем,
салодкасцю нясмелага жадання,
твайго пляча кранулася рукою
і вуснамі прыпала: любы, ранне..



* * *

Не ад кавы хвалюецца сэрца,
Не ад кавы мая бяссонніца.
Ранне кветкамі мне ўсміхнецца.
Ціхім вечарам неба раззорыцца.
Зноў чаканнем жыву, а каханне
Рэхам ціха ў душы адгукнулася.
Гэта я ў тваім сонечным ранні
Матыльком да шчакі дакранулася.

* * *

за вокнамі ў сутонні шэрым ранне
чакае ласкавага дотыку зары,
няхай на міг рука мацнейшай стане,
мяне ў абдымкі зноўку забяры.
не дай сысці ў халодную аблогу,
у восеньскае мроіва самот.
яшчэ дазволь мне памаліцца Богу,
каб прыпыніў імклівы часу лёт.



* * *

забыўшыся на грэх і на зарок,
праз адзіноту, што даўно няволіць,
хачу зрабіць табе насустрач крок
і смагу неадольную спатоліць.
суцішыцца ў абдымках і пражыць
у рытме сэрцаў гэты міг яднання
на самай хісткай вузенькай мяжы
паміж спакусай і маім каханнем.

* * *

назбіраю зёлак —
вылечу знямогу.
птушкай трапяткою
загляну ў ваконца.
кроплю даравання
вымалю я ў Бога.
стану на світанні
промнікамі сонца
для цябе, мой любы…
на сваю загубу...



* * *

кажуць, сёння зорныя дажджы
росамі спадуць у травы мая.
ты маю самоту залячы.
я згараю зоркай… я знікаю.
птушкай пралячу між нашых сноў,
белымі пялёсткамі на плечы.
я спакоем ахвярую зноў і зноў
за адзін вясновы ціхі вечар
і за ноч, дзе зорныя дажджы
росамі спадуць у травы мая...

* * *

у восеньскай імжы
не выплакаць самоты.
мы разам на імшы.
мы дзве з табою ноты.
расквечу твае сны.
сагрэю тваё ранне.
так доўга да вясны!
так блізка да кахання!
імгненні цішыні,
там унісонам сэрцы.
і светла з вышыні
нам ранак усміхнецца.



* * *

захіні мяне ад болю і няўдачаў.
узлячу з табою, любы, да нябёсаў,
і ад шчасця неабсяжнага заплачу,
і маліцца буду за яднанне лёсаў.
захіні мяне крылом і дай спакою,
наталюся радасцю кахання
над палескай ціхаю ракою
сакавіцкім прамянёвым раннем.

* * *

Гэтай ноччу прыкрыю фіранку
Твайго сну, асцярожна прысяду.
Буду шэптам спяваць калыханку
Пад бязгучнасць начных зарападаў.
Прытулюся разморанай коткай,
Запалю для вандровак ліхтарык.
Гэтай ноччу, такою кароткай,
Ты дазволь ажывіць мае мары
І застацца ў цябе да світанку,
Каб згубіцца ў разлівах кахання...
Як анёльскія крылы, фіранка
Калыхнецца самотлівым раннем.



* * *

Развітаецца травень калінаю белай
І растане ў ружовай вячэрняй зары.
Да пляча прыхінуся дзяўчынкай нясмелай —
Ты ў шчаслівае лета мяне забяры.
Забяры мяне ў росы, грыбныя світанні,
У шумлівыя ліўні пад свой парасон.
Зберажы мяне, любы, і наша каханне
Зберажэ гэты лёсам расквечаны сон...

# Раздзел 5
# СУВОЙ

* * *

У сутонні вечаровым
Ціха выйду за сяло.
Цішу зменяць перазовы,
Калыхне імглу крыло.

Птушкі шэрай цень распяты
Упадзе перада мной.
Строчыць конік, як закляты,
Строчыць ніткаю-тугой.

Адзінота ветрам сонным
Нема плечы мне кране.
Кубак шчасця (той няпоўны)
Нехта вып’е без мяне.



* * *

Вецер у небе паўночным
Гоніць сівыя аблокі.
Поўня ў калодзежы змрочным
Бліскае стомленым вокам.

Непагадзь голлем шурпатым
Трэцца аб гладкую шыбу,
Ціхай слязой вінаватай
Скоціцца ў ногі сядзібы.

Цяжка ўздыхне аканіца.
Сумна, маркотна на сэрцы.
І адзінота з паліцы
Ціканнем мне адгукнецца.

Ночка на брамцы лятае.
Крокам знаёмым здаецца.
«Выйшла? А ён не чакае!» —
З’едліва мне засмяецца.

* * *

Паўкруглы месяц да бярозы
Халоднай лашчыцца шчакой.
Страсае вецер з голля слёзы.
Трывога, сум і неспакой.

Каторы раз да гэтай сцежкі
Нябачны хтось заве мяне.
А за спіною злыя ўсмешкі
Сяброў былых… А можа, не?

А можа, проста падалося?
Маўчыць над рэчкаю туман…
А тое следам шматгалоссе —
Ці прывід, ці то чорных ценяў зман?

Чаму ж баюся азірнуцца?
Ад болю сэрца берагу?
Іду, каб болей не вярнуцца
У гэту шэрую смугу…



* * *

Абмытая слязой мая малітва
Рэфрэнам да нябёсаў: «Памажы!»
І кроіць лёс у пакаранне брытвай
Памкненні грэшнай стомленай душы.

Агеньчык свечкі нёс святло надзеі
І раптам знік, пакінуў толькі дым
Ды лёгкі пах васковы на падзеле
Паміж змярцвелым светам і жывым.

Ці маю права я прасіць у Бога,
Калі ўзамен разгубленасць аддам?
Калі ў душы збалеласць і трывога,
А скрозь — безвыніковасці туман?..

## Кардыяграма жыцця

Зноў бачу я белую столь,
І кут: той — сівы, абшарпаны, —
І холад цыратны. І боль,
Што дзесьці ў грудзях прыхаваны.

Шыпіць і шкрабе апарат
Крывыя на стужцы ружовай…
Ды гэта машына наўрад
Запіша ўсе думкі і словы

І тое, што жыць не дае.
Бунтуе, распальвае сэрца…
На стужцы жыцця прамільгне
Марш чорны і белае скерца.

Фіксуе няшчадна жыццё
Трывогі, турботы, няўдачы
Маршчынамі ды сівізной
І ранай на сэрцы гарачай.

У кардыяграме тваёй
Да скону ад самай калыскі
Няўмольнага лёсу рукой
Малююцца новыя рыскі.



* * *

Ізноўку ластаўкі на правадах
Матывы развітальныя складаюць.
І чырвань яблык у старых садах
Дажджы халодным ранкам абмываюць.

Радзее лісце. Ёсць вятрам прастор!
І сінь нябёсаў праступае смела.
За рэчкай у тумане шэрым бор,
Раса слязамі на каліне спелай.

Бунтуе ногі холадам зямля.
Цяпло начэй пакіну за парогам.
Расстання колер — восень ты мая,
Зжаўцелым лісцем сцелеш мне дарогу.

* * *

Заліваюцца шыбы слязамі,
Клін апошні падаўся імкліва.
І пранеслася восень над намі,
Асыпаючы золатам-дзівам.

Млечны Шлях у сузор’ях і бляску
Усё ж гіне ў начным небакраі…
Пра каханне шчаслівую казку
Нам дваім верасы нашапталі.

Не звязала нас бабіна лета.
Туманы ўздоўж спакойнае плыні…
Шчэ нядаўна каханнем сагрэта,
Замярзаю на восеньскай стыні.



* * *

У лазурку ясным — сонца,
Пад вадою — паплавы.
На вярбе шпакі, як звонцы,
Дзень вітаюць веснавы.
Ружавее шлях альховы,
І пяшчотна да рукі
Хіляць мяккія галовы
Вербалозу катахі.
Па далінах у цянёчку
Гусачкамі снег ляжыць.
Падмарозіць злёгку ночка,
Ручаінай дзень бяжыць.
А дачка, схапіўшы хустку,
У дзвярах адно мільгне.
Недаедзеная лустка
Застанецца на стале…

* * *

Мне зноў згадаўся цёплы ранак:
Надкусваючы свежы хлеб,
Дзяўчынка выбегла на ганак
І закрычала: «Ку-ра-слеп!»

Мядова-залатыя зоркі
Аблюбавалі мурагі.
На ціхіх сонечных пагорках
Зліліся ў жоўтыя кругі.

І колькі шчасця, хвалявання
Сустрэча гэта прынясла!
Аблашчанае сонцам ранне,
Над кветкай першая пчала.

А голас радасны дзяўчынкі
Быў чуцен нават і здалёк.
У светла-срэбраных расінках
Іскрыўся промнямі дзянёк…

Ды згас аднойчы прамянёвы.
Дзяўчо згубілася ў вясне…
А кураслепу шал агнёвы
Хвалюе і сягоння ў сне.



* * *

Не баляць у няўмелага рукі.
На ўспамінак нашчадкам дакор
Тых часоў. Калі першай навукай
Быў няхітры дзяўчатам узор,
Што ствараўся самотнай рукою
Пад тужлівую песню жанчын.
І чаўнок вечаровай парою
Танцаваў у мігценні лучын.
Не адна там была чараўніца:
Там любая — майстрыха з майстрых!
Яркай макаўкай шчочка ірдзіцца
Пад паглядам вачэй маладых.
І спляталіся ў дзіўным узоры
Подых ветру ды сонейка смех,
Жоўты месяц і сінія зоры,
Цнота ранку і вечара грэх.
Там гармонія гукаў і рухаў,
Там малітва натхнення і Бог.
Хтось прадбачлівы мудрасць падслухаў
І для нас, для няўмелых, збярог.

* * *

*Памяці давыд-гарадоцкага*
*майстра музычных*
*інструментаў прысвячаецца*

Кажуць, цела адно памірае,
А душа застаецца, жыве.
І нябачна, заўжды маладая,
Аблачынкай у небе плыве.
І твая неўміручасць, Музыка.
Майстра гукаў, ладоў, галасоў —
У баяне маім, што нязвыкла
Разліваецца столькі гадоў!
Хай класічнага ў гуках тых мала.
Знаўца скрывіцца, зморшчыць свой твар.
Ды душа твая шчодра ўвабрала
Плёскат рэчкі, рабіны пажар.
Гукі родных палёў і балотаў,
Пералівы начных салаўёў,
Цішу раніцы, шолах чароту
Ты ў баяне вянком пераплёў.
Я вучуся цябе разумеці.
Нашы душы даўно — унісон.
Чуеш, Майстра, растуць мае дзеці,
І баян заспявае твой зноў!



* * *

Пазалацілі дзьмухаўцы мурог
Ля згорбленай, пахілае хаціны.
Знямелы і развалены парог.
Замшэлы дах. Сцішэлыя мясціны.

Тут жыў скрыпач. Тут музыка жыла.
Яны ўдваіх дзялілі адзіноту.
Прысядзе ціха поўня край стала,
Прыляжа скрыпка на плячо самотна.

І выцягне з нацятых струн смычок
Усю збалеласць, гора і маркоту.
І прыпадзе да шыбы павучок,
Забыўшы пра адвечную работу.

А зорны коўш зачэрпне цераз край
Шчымлівасць дзіўнай музыкі начное.
І моліць цішыня: «Іграй, іграй.
Не чула я мелодыі такое».

А што ў вачах вільготных? То не сон.
У іх душа, і талент, што ад Бога,
І горкі лёс, і той нячутны тон,
Няўлоўны гук, што вабіць у дарогу.

Апошні раз дрыготкая рука
Спакой струны парушыла пяшчотна.
Апошні ўзмах, апошні ўзлёт смыка,
Апошні бляск вачэй, старых, гаротных…

…Пазалацілі дзьмухаўцы мурог,
Над дахам клёкат радасны бусліны.
Вясновы вецер для мяне збярог
Шчымлівую мелодыю айчыны…

* * *

Расчэсвае ветрык рамонкавы луг.
У сініх званочках заснулі чмялі.
Тут мятна-мядовы, салодкавы дух
І песня шчымлівая роднай зямлі.
Збягу ў гэты луг, дзе не звоніць каса,
Збягу ў травяны, канюшынавы рай.
Вянчаецца тут са спакоем краса
Пад птушак залівістых спеў-пераграй.
А вечарам выйду на сцежку адну —
Яна без дакору дамоў прывядзе.
Духмяны букет да грудзей прыгарну —
Мне большага шчасця не будзе нідзе.



* * *

Пад паклоны вербалозу
Лодка лёгка слізгане.
І празрыстыя стракозы
Пажадаюць шчасця мне.

Буду вельмі асцярожна
У той лодцы веславаць.
Як ягняткі, ціха, гожа
Аблачынкі ў рэчцы спяць.

Ветрык гладзіць плынь пяшчотна.
Штосьці шэпчуць чараты.
І ківае дзюбай згодна
Побач бусел малады.

## Дзеду Яну

Ляснула раніца клямкай,
Бразнула вёдрамі ўслед.
Па-гаспадарчы на ганку
Тупае, тупае дзед.
Колькі тых раніц у дзеда?
(хто іх палічыць калі!)
Промнікаў першых і неба,
Росных усмешак зямлі?
Плёскат вады каля студні,
Дровы кладуцца ў касцёр,
Працаю, клопатам буднім
Поўніцца ў вёсцы жыццё.
Дзедавы рукі без стомы,
Так мне здаецца заўжды.
Позірк удумны, знаёмы,
А за плячамі — гады.
Шчасна мне раніцай бачыць,
Як ён ідзе да ракі…
Дзеда ўжо не перайначыць.
Нораў у дзеда такі.



* * *

Оддай мэне, маці,
Дзе хорошэ ў хаці…

*З палескай песні*

Аддай мяне, любая маці,
Дарозе, прызначанай Богам.
Не трэба на лёс наракаці,
Калі ўжо дачка за парогам.
Аддай мяне долі й нядолі,
Аддай мяне зімам і летам.
Там птушкаю буду на волі
Ці ў цемры — струменьчыкам светлым.
Няхай не здаюцца слязамі
Дажджы вераснёвай парою.
Трывожныя сны туманамі
Растануць у рэках спакою.
За грэшную зрэдку маліся:
Любоў твая — мне засцярога.
Яшчэ папрашу: адзавіся,
Калі пагукаю з дарогі.

## Вясковае

Калядны вечар сцеле сцежкі
Па срэбна-беламу сняжку.
У вокнаў цёплыя усмешкі,
Дзявочы смех у кажушку.

Рассекла цішу песня смела,
Гармонік весела дагнаў.
Аж да нябёсаў узляцела!
Аж маладзік затанцаваў!

Спраўляла свята наваколле,
І ўздоўж і ўпоперак сяла
Гулянкі ладзілі, застоллі…
І зорка велічна плыла.

З гуртом і я калядавала,
А радасны псаломны спеў
І неба зорнае натхнялі
Спяваць усіх, хто і не ўмеў.

У хату шчыра запрашалі.
Мароз ахвоты надаваў.
І пажаданні, як каралі,
Наш хмельны розум рассыпаў.

Прыгаслыя заснулі зоркі,
І плёўся ўслед стамлёны цень.
У шэрай мройнасці за ўзгоркам
Расплюшчваў вочы новы дзень.



## * * *

Адвечны сонца шлях
У калаўроце часу:
У жытніх каласах,
У асалодзе квасу,
У замецях зімы,
У песні салаўінай…
Услед за сонцам мы
Ісці і жыць павінны.

* * *

Вось і скончана дзіўная казка…
Адцвіла, абляцела, завяла.
Ружа белая — росная ласка,
Слёзы ціха ў пялёстках схавала.

Вось і скончана дзіўная казка…
Белакурых анёлаў пасланцы —
Матылі гэту божую краску,
Не, не ўзрадуюць ранішнім танцам.

Вось і скончана радасць, пяшчота.
Дол пялёсткамі густа пасланы.
А нямое сцябло, быццам з дроту,
Пакідае крывавыя раны.



## Знічка

Яна жыла адно імгненне
І згінула ў бязмежжы чорным.
Кароткае — і ўсё ж гарэнне,
Не проста бляск у небе зорным.

* * *

Не абрывай каліну рана.
Няхай нацешыцца цяплом,
Пяшчотай сонечнай, туманам,
Птушынай песняю, дажджом.
Напалавіну чырвань ягад —
Не спеласць гэта. Пачакай.
Абернецца гаркотай прага,
І пеклам назавецца рай.
Яе святая сарамлівасць,
Дай толькі час, і ўскалыхне.
Пажарам скончыцца цнатлівасць…
Як маці, восень уздыхне.



* * *

Слухай, слухай…
Слухай, слухай…
Плача вецер за акном.
Ноч — сівая векавуха
Поіць поўню над сялом.
Слухай, слухай…
За ракою,
За прыснежаным мастом
Вые воўк з такой тугою
Пахавальны свой псалом.
Стогн піліпаўскае ночы.
Адзіноты, смутку цень.
Сум дзявочы — лёс сірочы…
Слухай…
Хтосьці там прарочыць
Новы і шчаслівы дзень.

## Трыялет

Спакой і цішыня…
Край поля ў малацэ туману гіне.
Счарнелы вербнік у зімовай стыні,
Спакой і цішыня.
Дарога стужкай з-пад нагі каня.
Дзясятак мерзлых ягад на каліне.
Спакой і цішыня.
Край поля ў малацэ туману гіне.



## * * *

Парцалянай белай снег
Пасля дзён адліжных,
Ледзяшы з вясковых стрэх,
У серабрынках вішні.

Сонца соннае ізноў
Выпаўзла к абеду…
Дзень па насту ціха йшоў,
Не пакінуў следу.

* * *

Выразала ночка выцінанку,
На бярозы вешала рупліва.
Адарыць людзей чароўным ранкам
Раптам ёй схацелася, мажліва.
У тасёмкі, белыя карункі
Да вянца каліну прыбірала.
Ад начных марозных пацалункаў
Чырванела тая й застывала.
Саламяных зорак карагоды
Ды кружэлка поўні залатое
Асвячалі з гэтае нагоды
Кожны кусцік, дрэўца маладое.
Нахапіўся ранак неспадзеўку,
Дзіўнай казкай наваколле стала.
Ды ніхто не ўспомніў чарадзейку,
У праменях славы сонца ззяла.



## Роднае

У пояс трава паабапал дарогі
Ціха кранаецца стомленых рук.
Каб сэрца пазбавіць ад новай трывогі,
Спакоем напоўніць прыспешаны стук.
Упасці ў яе… патануць у пяшчоце
І зліцца з акордамі гэтай красы.
Хвала гэтай музыцы, сонцу, дрымоце
У кропельках ясных крыштальнай расы.
Хай спеласць травы мне на твар ападае
Пылком жаўтаватым, самотным дымком.
Зязюля за лесам зусім не скупая,
Адлічвае ўпарта гадок за гадком.
У голас адзіны злілося жывое:
І шэпты, і звоны, і плёскат, і свіст,
І нават маўчанне травінкі малое,
І подых вятрыскі, што гойдае ліст.
Мне нават адной гэтай казкі даволі.
Не буду прыспешваць дарогу й гады.
Тут песня жыцця, і прасторы, і волі,
Тут мой паратунак ад гора й бяды.

* * *

Прыціх стамлёна над ракою вербалоз,
Дзе цэлы дзень птушыны спеў і скокі.
З-за небакраю залатыя пасмы кос
Шле сонца на ружовыя аблокі.

Ружовы вечар уздыхае над зямлёй
То белаю калінаю, то мятай.
І прахалода пасля дзённай спёкі той
Заве на вуліцу, на лаўку каля хаты.

І гэтак добра! Ціха, міла на двары.
І мары, як аблокі, праплываюць.
Ружова-белыя у променях зары,
Завуць у далячынь і там знікаюць.



* * *

Сцямнела. Жыцень-працаўнік
Павесіў серп між голля.
Раз-пораз чапляў рэзкі крык
Трывожыць наваколле.

На пожню цягне іх з балот
Вячэрняю парою.
І гэты дружны пералёт
Нясе дажджы з сабою.

Трывожыць водар траў сухіх,
Бульбяніку і кветак.
І ветрык недзе ў вербах сціх,
І цёпла, добра гэтак.

Па небе Млечны Шлях пралёг,
А па зямлі — шлях росны.
На даляглядзе Бог Сварог
Куе зарніцы грозна.

Прашыла знічка зноў траву,
Мільгнуць яшчэ паспела.
Жадаю жыць.
І я жыву…
Былое адбалела…

* * *

Чаканне… Вечнае чаканне
Чагосьці светлага ў жыцці.
І лёс даруе нам каханне,
Каб разам шчасце ў ім знайсці.
А мы зусім не там шукаем,
Гады марнуючы дарма.
На лёс панура наракаем,
Што шчасця не было й няма.
Каханне ж птушкаю вясновай,
Цудоўнай песняю, дажджом,
Вятрыскам лёгкім, першым громам
Кранула сэрца і прайшло.



* * *

Не раўнуй да гэтай зоркі,
Што ў ружовым ціхім золку
Вугальком іскрыстым кінуў
Вечар у галлё рабіны…
Не крыўдуй, што на змярканні
След твайго, майго кахання
Я шукаю зноў упарта…
Ды людскога вока варта
Сочыць пільна.
А ці варта?

* * *

Ты спіш. Магчыма, сніш далёкі край.
А ў краі тым Яе. Як нечакана
Перапляліся цесна грэх і рай.
Надзея і пакутлівы адчай
Табе ізноў жыццём наканаваны.
Ты сніш: Яна і зарапад,
Забыты кубак гаркаватай кавы…
Чакаеш: раптам вернуцца назад
Сустрэча, незабыўны праменад
І вальса гук пяшчотны і ласкавы.
Ты спіш. Магчыма, сніш далёкі край…
Як нечакана…



## Радаўніца

Тут цішыня наўкол такая дзіўная
І зелень хвой старых да чарнаты.
А неба над крыжамі сіня-сіняе —
Прытулак лёсаў, жалю і смуты.

Аціхлы ветрык голлем не пахіствае.
Сляза жывых — крышталі рос.
Гучыць узнёслае, такое чыстае:
— Хрыстос з памерлых уваскрос!

Надзея лётае ў нябёсах птушкаю,
І кроплямі дажджу на дол спадзе…
І кветка першая найвернай служкаю
На светла-жоўтым насыпе ўзрасце.

* * *

На скрыжаванні дзвюх дарог
Ў малітве галаву схіляю.
Драўляны крыж — мой абярог,
Яго з дзяцінства памятаю.

Стаіць, ахоўнік ад бяды,
Абвязаны маёй наміткай.
Снягі, вятры, дажджы, гады
Чарняць яго, зяленяць світку.

Чыёй стараннаю рукой
Ён быў узняты, як надзея?
Пад зорамі ў цішы начной,
З якой нагоды ці падзеі?

Драўляны крыж, стары, святы,
Спамінак продкаў, памяць веку.
У цяжкі час, ва ўсе гады
Ён верна служыць чалавеку.



* * *

Сярод сваіх балот
Хаджу я каралеўнай.
Мне шэпча штось чарот,
І шэпт такі напеўны.

Тут таямніц маіх
І скарбаў ёсць прыстанак.
З каханым на дваіх
Дзялілі ноч і ранак.

Займела з песняй я
Нябёсаў благаслаўленне.
Тут род мой і зямля,
Дзяцінства і сталенне.

Крыжы і бальшакі,
Спавітыя туманам…
Паверце, землякі,
Я вам чужой не стану.

* * *

За ракой пракувала зязюля світанне.
Бусел соладка выцяг, расправіў крыло.
І пад клёкат яго, вераб'ёў шчабятанне
Поўня сінюю ноч павяла за сяло.

Паплавоў сон апошні туманам дрыготкім,
Прахалодай і свежасцю ціха плыве…
І гнядога каня залатыя бразготкі
Рассыпаюцца звонам у роснай траве.

А на ўсходзе зары сарамлівая чырвань
У чаканні хвалюючым радасці той,
Калі сонца праменне вясёлкавым ліўнем
Растрывожыць паўсонны вясковы спакой.

Адзавуцца гарластыя пеўні наўкола,
Нізка ўклоніцца студні стары журавель.
І «дзень добры» — прыветныя шчырыя словы —
Абяцаюць усім сапраўды добры дзень.



* * *

Басанож па травах росных,
Па іскрыстых мурагах
Праляцелі нашы вёсны,
Песняй сталіся ў лугах.
У палоне мятна-кменным
Той шчаслівы добры час
Рэхам светлым, рэхам спеўным
Адгукнецца іншы раз.
Зашчыміць тужліва сэрца
Па калінавай вясне.
Ранкам звонкім у акенца
Зрэдку птушка зазірне.
Госця ў хату напрарочыць.
Весткай-спевам зазвініць.
І надзеяй аж да ночы
Новы дзень твой прабяжыць.
Хваляванні ноч астудзіць.
Успаміны стануць сном.
А за сны ніхто не судзіць,
Нават поўня за акном.

* * *

Астыласць. Аціхласць. Аголенасць…
Маркота. Ад марнасці стомленасць.
Дзівацтва прыроды акрэслена
Запозненай песняй заснежанай.

У небе клін, снегам замецены,
Карункамі спешна аплецены
Маіх хрызантэм куст ля веснічак,
Прадзім’я і холаду хрэснічак.

І сцелюцца саваны белыя,
Душа ад трывогі збалелая.
Памкненняў яе ў чым спатоленасць?
Паўсюдна ж аціхласць, аголенасць…



* * *

Вярбовая дарога да сяла,
Зялёна-залатая ў светлы ранак,
Мяне пад цень спагадна прыняла…
Як грэшніцы дае святы прыстанак
Прытулак, бласлаўленне і спакой,
Праз шчырую малітву ўратаванне,
Так і дарога гэта, на якой
Сустрэчы нашай след і след расстання
Пяском паволі вецер замяце.
Праз шэры пыл праб’ецца разнатраўе…
І палыном самота прарасце,
І кветкаю — надзея на спатканне.

# Змест

Раздзел 4
КАВА І ВЕРШЫ Ў ЛОЖАК





Раздзел 5
СУВОЙ

**Ляшкевіч, І.**

С36 Вас я чакала : кніга вершаў / Ірына Ляшкевіч. — Мінск : Кнігазбор, 2018. — 124 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 107).

ISBN 978-985-7144-32-7.??

Кніга паэзіі Ірыны Ляшкевіч «Вас я чакала» — гэта шчырая размова з чытачом аб тым, чым поўніцца сучаснае вясковае жыццё жанчыны-творцы. У зборнік увайшлі як новыя вершы, напісаныя за апошнія гады, так і выбранае з першага зборніка паэзіі «Сувой».

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)-5**

12+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 107

**Ляшкевіч** Ірына

**ВАС Я ЧАКАЛА**

*Кніга вершаў*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Пашкевіч*
Вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 16.07.2018. Фармат 80×100 1/32.
Папера афсетная. Рызаграфія. Ум. друк. арк. 5,74.
Ул.-выд. арк. 2,33. Наклад 200 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.